МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№3 (143)
сакавік 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



ПАДЗЕІ

## КАБ БЕЛАРУСЬ БЫЛА НА КУЛЬТУРНАЙ МАПЕ ЭСТОНІІ!

Няўрымслівая і зменлівая вясна, якая то пырсне дажджом, то разгоніць хмаркі і сагрэе нашыя твары сонечнымі промнямі, урэшце надышла. У адзін з такіх свежых веснавых дзён – 23 сакавіка – у эстонскім горадзе Йыхві напоўніцу расцвіў… БЭЗ. Беларуска-Эстонскае Згуртаванне – БЭЗ – адзначала свой 25-гадовы юбілей.

Адзначала і вялікім канцэртам, які сабраў поўную канцэртную залу горада, і працай.

З Беларусі павіншаваць суродзічаў з Эстоніі са святам, паўдзельнічаць у юбілейнай канферэнцыі прыехалі Старшыня Рады Згуртавання "Бацькаўшчына" Ніна Шыдлоўская і сябра Рады, даследчык дыяспары Наталля Гардзіенка.

Канферэнцыю "Беларуская дыяспара Эстоніі: рэальнасць і надзеі" адкрывала старшыня БЭЗу Зінаіда Клыга. У яе ўступным слове прагучала нота трывогі за будучыню беларусаў замежжа, бо калі ствараўся БЭЗ на ўздыме, з вялікімі надзеямі, то цяпер, праз 25 гадоў, робіцца бачна, як сувязі з роднай зямлёй страчваюцца ўсё больш, і наступныя пакаленні беларусаў усё менш адчуваюць далучанасць да Радзімы.

"Сёньняшняя размова тут – гэта не зусім тыповая канферэнцыя, – зазначыла Зінаіда Клыга. – Гэта – магчымасць агучыць нашы назапашаныя праблемы ў прысутнасці прадстаўнікоў кампетэнтных органаў Беларусі і Эстоніі".

І сапраўды, канферэнцыя сталася пляцоўкай для плённай і цікавай дыскусіі, якая разгарнулася паміж удзельнікамі. Вядоўцай канферэнцыі абралі Маргарыту Астраумаву, якая стаяла ля вытокаў БЭЗу і шмат гадоў была яго старшынёй.

Сваім дакладам Зінаіда Клыга распачала гутарку пра будучыню беларусаў Эстоніі. Яна згадала, што Беларуска-Эстонскае Згуртаванне стваралася 25 гадоў таму на хвалі адраджэння нацыянальнай свядомасці. Тады ішоў актыўны дыялог дыяспары з Беларуссю, адчуваліся пэўныя перспектывы, тым больш што побач падрастала новае пакаленне беларусаў, якім таксама ўсё гэта было цікава.

"Сёння мы моцна пастарэлі, – працягнула Зінаіда Клыга. – І сёння ў нашых дзяцей з'явіліся іншыя прыярытэты. Мы застаемся апошнімі магіканамі, якія варацца ва ўласным соку і з цяжкасцю ўяўляюць, што будзе далей".



*Ансамбль "БЭЗ"*

Нейкія перспектывы, паводле спадарыні Зінаіды, магчымая толькі тады, калі за імі стане маладое пакаленне, зацікаўленае ў сваёй беларускай ідэнтычнасці. Для гэтага трэба, каб Беларусь зрабілася цікавай, роднай і прыцягальнай для моладзі, каб яны адчувалі, што там іх карані, іх гістарычная Радзіма, якой яны патрэбныя, роўна як і тыя, што жывуць на гэтай зямлі.

Аляксандр Дусман, кіраўнік круглага стала нацыянальных меншасцяў пры павятовым старэйшыне Іда-Вірумаа, зрабіў цудоўную прэзентацыю, якая паказала, як шмат мерапрыемстваў за апошні час зладжана супольна нацыянальнымі культурнымі таварыствамі рэгіёна. Такое супрацоўніцтва моцна ўзбагачае агульны культурніцкі фон, а таксама спрыяе выхаванню талерантнасці ў

*Працяг на стар. 2*

# КАБ БЕЛАРУСЬ БЫЛА НА КУЛЬТУРНАЙ МАПЕ ЭСТОНІІ!

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

жыхароў паўночна-ўсходняй Эстоніі.

Без сістэмнага даследавання стану беларускай дыяспары, без наяўнасці ў Беларусі асобнай структуры, якая б паслядоўна рабіла гэтую працу, немагчыма зразумець, якія працэсы цяпер адбываюцца. Адпаведна, вельмі складана арганізаваць эфектыўную супрацу паміж Беларуссю і дыяспарай. Пра гэта, а таксама пра праблемы пераемнасці пакаленняў у беларускай эміграцыі, пра неабходнасць папулярызацыі ў самой Беларусі дзейнасці беларускіх асяродкаў за мяжой распавяла Наталля Гардзіенка, кандыдат гістарычных навук, сябра Рады "Бацькаўшчыны".

Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ніна Шыдлоўская адзначыла, што вялікім крокам у дзяржаўнай палітыцы ў стасунках з беларусамі замежжа ёсць тое, што нарэшце ў першым чытанні прыняты Закон "Аб беларусах замежжа". Нагадала, што "Бацькаўшчына" прасоўвала гэтае пытанне з 2001 года. Аднак прыняцце Закона – гэта толькі першая кропка вялікага шляху. Тым больш што ён носіць хутчэй дэкларатыўны характар. Неабходная распрацоўка канцэпцыі сістэмнай супрацы паміж дзяржавай Беларусь і беларусамі замежжа. Неабходная змена стаўлення да беларусаў замежжа як да "адрэзанай лусты". І беларусы ў Беларусі, і беларусы ў замежжы – гэта ўсё адна беларуская нацыя. Аднак пры нізкай самаідэнтыфікацыі беларусаў і да таго ж без сістэмнай падтрымкі дзяржавы ў недалёкай перспектыве "беларус замежжа" як панятак можа знікнуць.

Слова на канферэнцыі бралі таксама намеснік старэйшыны Йыхвіскай воласці Вела Юххоў, Саветнік Пасольства Рэспублікі Беларусь у Эстоніі Сяргей Рычэнка, віцэ-канцлер Міністэрства культуры Эстонскай Рэспублікі Ане-Лі Рэймаа, дэпутат Рыйгікогу, намеснік старшыні міжпарламенцкай групы "Эстонія-Беларусь" Дзяніс Бародзіч, кіраўнік асацыяцыі беларусаў Эстоніі "Бацькаўшчына" распавяла Ніна Савінава, а таксама прадстаўнік Беларускага інфармацыйна-культурнага цэнтра ў Эстоніі VIKE Артур Цурбакоў. Ён, дарэчы, прапанаваў аб'яднанымі намаганнямі беларускіх арганізацый Эстоніі ўсталяваць у Таліне помнік Пімену Панчанку да яго 100-гадовага юбілею, які будзе ў 2017 годзе.

Выступоўцы адзначалі надзвычай актуальную агульную праблему – прыцягненне маладога пакалення беларусаў да дзейнасці культурных таварыстваў.

Падводзячы вынікі канферэнцыі, Зінаіда Клыга зазначыла, што гэтая дыскусія дазволіць лепш сфармуляваць пажаданні да заканадаўчых органаў Беларусі і данесці да іх свае меркаванні па тых праблемах, якія сёння турбуюць эстонскіх беларусаў.

Пасля канферэнцыі ўсіх чакала ўрачыстая частка юбілейнай праграмы: святочны канцэрт, віншаванні і ўручэнне падарункаў ад шматлікіх гасцей з Эстоніі ды Беларусі. У зале быў поўны аншлаг! І не дзіўна: паслухаць ансамбль "БЭЗ", які існуе практычна ад самага пачатку існавання арганізацыі, заўжды шмат ахвочых, а тут яшчэ і такая падзея – 25-гадовы юбілей Згуртавання. І з гэтай нагоды да юбіляраў завітаў ансамбль з Паставаў "Паазер'е", які ўжо добра вядомы ўсім жыхарам Йыхві.



*Наталля Гардзіенка, Сяргей Рычэнка, Ніна Шыдлоўская*

Ансамбль БЭЗу сустрэў гасцей цудоўнымі спевамі, хлебам ды соллю: у залу пусцілі адмыслова спечаныя з нагоды свята каравай. А потым усе прысутныя пачулі вітальнае слова старшыні БЭЗ Зінаіды Клыгі. Галоўнай каштоўнасцю Згуртавання спадарыня Зінаіда назвала людзей, якія застаюцца вернымі сабе, сваім продкам, сваім беларускім караням. А такіх людзей нямала: хтосьці працуе ўвесь час, хтосьці – дапамагае "на падхопе", хтосьці з ахвотаю прыходзіць да землякоў на мерапрыемствы БЭЗу.

Ансамбль цешыў гасцей чыстымі, меладычнымі галасамі неверагодна спеўных кампазіцый нібыта ў адказ на шматлікія віншаванні гасцей, што выходзілі на сцэну з кветкамі, падарункамі ды цёплымі словамі на адрас БЭЗаўцаў.

Права павіншаваць сябраў БЭЗу першымі далі гасцям, якія адмыслова з нагоды свята прыехалі з Беларусі.

Ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" віталі юбіляраў Ніна Шыдлоўская, старшыня Рады, і сябра Рады – Наталля Гардзіенка. У віншаванні спадарыня Шыдлоўская адзначыла: "Чвэрць стагоддзя таму, у 1989 годзе, намаганнямі неабыякавых да сваёй культуры і гісторыі беларусаў на эстонскай зямлі стварылася гэтая супольнасць. Яна была закліканая найперш яднаць тых, хто любіць Беларусь, захоўваць і папулярызаваць беларускую мову і культуру, годна прадстаўляць беларускую нацыю ў шматнацыянальным рэгіёне Іда-Вірумаа. І сёння мы з гонарам адзначаем, што ўвесь мінулы час Беларуска-Эстонскае Згуртаванне на самым вышэйшым узроўні вырашала пастаўленыя мэты". А ў дадатак да шчырых віншаванняў ды пажаданняў ад "Бацькаўшчыны" была перададзеная Падзяка за папулярызацыю беларускай культуры ў Эстоніі і памятныя падарункі. На просьбу Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прадстаўнікі "Бацькаўшчыны" перадалі віншавальны ліст і дыван з выявай святой Еўфрасінні Полацкай.

Віншавалі БЭЗаўцаў са сцэны і прадстаўнікі эстонскіх дзяржаўных структур, беларускіх суполак і суполак іншых нацменшасцяў Эстоніі

Напрыканцы першай – віншавальнай часткі канцэртнай праграмы – вядучая Таццяна Дэкельбаўм ад імя БЭЗу выказала падзяку ўсім, хто дапамог падрыхтаваць і правесці святочнае мерапрыемства.

Больш падрабязна пра святкаванне юбілею БЭЗу чытайце, калі ласка, на нашым сайце zbsb.org.

Мы ж дзякуем БЭЗу за цудоўнае свята і за тое, што беларускасцю прасякнута паветра Йыхві!

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## БЕЛАРУСКАЯ ДЫКТОЎКА Ў ВАРШАВЕ

Дыктоўка на традыцыйны "Ліст з-пад шыбеніцы" была прысвечаная 150-м угодкам смерці беларускага героя, а таксама 8-й гадавіне памятнай Плошчы-2006, у час якой пратэстоўцы перайменавалі Кастрычніцкую плошчу ў Мінску ў Плошчу Каліноўскага. Дыктоўка была напісаная на трох мовах: беларускай, украінскай і польскай.

Гэта было зроблена для таго, каб падкрэсліць важнасць апошніх падзей ва Украіне для беларускай і польскай супольнасцяў, каментуе адзін з суарганізатараў акцыі Зміцер Бародка. "Гэтая дыктоўка нагадвае беларусам пра іх мінуўшчыну, пра падзеі не толькі 8-гадовай даўніны, але і пра нашых славутых продкаў. У той час, калі адбываюцца падзеі ва Украіне, расійскі імперыялізм ізноў паказвае сваё аблічча. Мы мусім памятаць, што ў беларусаў былі свае героі, якія адстойвалі сваю нацыянальную адметнасць, незалежнасць. Я думаю, гэта добры прыклад выхавання новага пакалення".

Мерапрыемства адбылося ў Беларускім доме ў Варшаве.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

АБВЕСТКІ

## НОВЫ НУМАР "САКАВІКА"

Напярэдадні Дня Волі выйшаў новы нумар інтэрнэт-часопіса "САКАВІК". У ім змешчаныя наступныя артыкулы:

Viktoryia Kozlova. "Belarusian perspective on crisis in Ukraine";

Архіяпіскап Святаслаў Логін. "Беларускія цудатворныя іконы Прасвятое Багародзіцы";

Пётра Мурзёнак. "Нацыя і свабода";

Галина Тумилович. "Не нобелевский лауреат".

Запрашаем на www.sakavik.net!

## "НЕКАРЭКТНАЕ ТБ" АД ВІТАЛЯ ВОРАНАВА

"Некарэктнае ТБ" – свабода слова не на словах. Прапануем вашай увазе незалежны, непадцэнзурны, палемічны відэаканал з развагамі на актуальныя і адвечныя тэмы. На гэтым канале пра змест каментара вырашае глядач, а не мадэратар. Каб атрымліваць паведамленні пра новае відэа, падпішыцеся на навіны каналу непасрэдна тут, на профілях у фэйсбуку і ўкантакце, або на афіцыйнай старонцы www.eSvaboda.org

## ДЫСКУСІЯ АБ БУДУЧЫНІ БЕЛАРУСІ

20 сакавіка 2014 года AJC "Амерыканскі габрэйскі камітэт" сумесна з арганізацыяй "Беларусы ў выгнанні" правялі дыскусію "Будучыня Беларусі: між Еўропай і Расіяй. Ці карысны ўкраінскі досвед?", у якой узялі ўдзел Андрэй Саннікаў, Валер Кавалеўскі, Алесь Міхалевіч, Юрась Зянковіч, Сэм Крыгер, Юрый Магаршак, Марына Кавалеўская.

Андрэй Саннікаў, лідар грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь", кандыдат на выбарах прэзідэнта РБ 2010 года, палітвязень, падкрэсліў прынцыповае значэнне падзей ва Украіне для будучыні не толькі Беларусі, але і ўсёй Усходняй Еўропы, неабходнасць будаваць палітыку Захаду зыходзячы з каштоўнасцяў, а не імгненных тактычных, часцяком ілюзорных абставінаў, што неабходна для бяспекі і стабільнасці ўсёй Еўропы, прадухілення распаўсюджвання зброі масавага паражэння, забеспячэння ўстойлівага развіцця і бяспекі як мінімум кантынента, а магчыма і ўсяго свету.

Марына Кавалеўская, якая атрымала магістарскую ступень на юрыдычным факультэце ўніверсітэта Гарварда, у мінулым – адвакат беларускіх палітыкаў Андрэя Саннікава і Змітра Дашкевіча, адзначыла, што пытанне палітычных зняволеных – гэта вяршыня айсберга. Сістэма, выбудаваная за апошнія 20 гадоў у Беларусі, прывяла да поўнага знішчэння вяршэнства права – адсутнасці незалежнай і бесстаронняй судовай сістэмы, пракуратуры і незалежнай адвакатуры. Ігнараванне ўладамі рашэнняў Камітэту ААН па правах чалавека прывяло да поўнай адсутнасці доступу да правасуддзя для беларусаў.

Свой выступ Алесь Міхалевіч, лідар "Асацыяцыі за мадэрнізацыю", прысвяціў катаванням, якія сталі неад'емным інструментам і штодзённай рэальнасцю "праваахоўнай" сістэмы Беларусі і прымяняюцца не толькі да палітычных праціўнікаў рэжыму, пабудаванага Лукашэнкам, але і да звычайных грамадзянаў РБ.

Дырэктар Цэнтра ініцыятываў па Беларусі (Вашынгтон) Валер Кавалеўскі зрабіў паведамленне пра асаблівасці знешняй палітыкі Беларусі рэжыму Лукашэнкі і пра перспектывы развіцця сітуацыі ў сувязі з агрэсіяй Расіі супраць Украіны. Знешняя палітыка Лукашэнкі арыентаваная не на забеспячэнне нацыянальных інтарэсаў Беларусі, а на ўтрыманне яго асабістай улады. Гэтая неадпаведнасць паміж тым, якімі мэтамі павінен кіравацца прэзідэнт і тым, чым насамрэч закладпочаны рэжым Лукашэнкі, прывяла да фактычнай міжнароднай самаізаляцыі і значнага паслаблення суверэнітэту Беларусі. Гэта асабліва востра адчуваецца ва ўмовах агрэсіі Расіі супраць Украіны. Лукашэнка карыстаецца мінімальнай самастойнасцю ў сваім знешнепалітычным выбары і можа быць вымушаны больш актыўна падтрымаць агрэсіўныя дзеянні Пуціна супраць украінскага народа. У гэтай сувязі Кавалеўскі выказаў меркаванне, што канфлікт вакол Украіны павінен пакласці канец неафіцыйнаму прызнанню Захадам сферы прывілеяваных інтарэсаў Расіі ў краінах былога Савецкага Саюза.

Юрась Зянковіч, ньюёркскі адвакат беларускага паходжання, сярод іншага звярнуў увагу прысутных на тое, што цяпер Беларусь існуе ў абсалютна новых геапалітычных рэаліях. "Пасляваенная ялцінскі сістэма бяспекі ў Еўропе пачалася ў Крыме і, падобна, у Крыме і скончылася. Няма больш Ялцінскай сістэмы, няма Хельсінкскага акту аб бяспецы ў Еўропе, няма Будапешцкіх гарантый для Беларусі і Украіны", – падкрэсліў Юрась Зянковіч. На яго думку, беларусы павінныя пераасэнсаваць новыя рэаліі, зрабіць пераацэнку пагрозаў, якія сыходзяць для незалежнасці Беларусі, і зрабіць адпаведныя высновы. "Яшчэ месяц таму, калі хтосьці казаў, што Захад павінен падтрымаць дзеянні беларускіх уладаў у яе канфлікце з Расіяй, я казаў, што гэта пралукашэнкаўская прапаганда. Сёння я ўжо не ўпэўнены, што гэта правільная ацэнка. Калі, не дай Бог, здарыцца канфлікт паміж лукашэнкаўскім рэжымам і расійскім фашызмам, то я асабіста буду падтрымліваць сваю краіну", – скончыў выступ Юрась Зянковіч.

У абмеркаванні выступілі некалькі прадстаўнікоў палітычных і грамадскіх арганізацый, лідар беларускай арганізацыі "Пагоня" Віталь Зайка, сябры БАЗА Ала Орса-Рамана, былы дырэктар беларускай рэдакцыі "Радыё Свабода" Вячка Станкевіч, прадстаўнікі амерыканскай, расійскай і беларускай грамадскасці. Удзельнікі дыскусіі прыйшлі да агульнай высновы, што ўся прававая сістэма Рэспублікі Беларусь па сутнасці – імітацыя такой: фармальна прысутнічаюць усе элементы, але яны не выконваюць сваёй ролі ў агульнапрынятым разуменні, з'яўляючыся не больш чым неабходнымі для прадстаўлення міжнароднай супольнасці "вітрынамі" для дасягнення іміджавых мэтаў, але ва ўнутранай палітыцы выконваючы ролю інструментаў падаўлення і застрашвання насельніцтва краіны.

*Паводле прэс-службы арганізацыі "Беларусы ў выгнанні"*

# У Вільні ўшанавалі 150-ую гадавіну з дня страты героя Кастуся Каліноўскага

22 сакавіка беларусы сабраліся ў сваім Вечным Горадзе, каб прайсці апошнім шляхам свайго Героя і засведчыць грамадскасці, што акупантам так і не ўдалося знішчыць ні нацыю, ні нацыянальную памяць. Гэтым разам сімвалічным было і само ўшанаванне памяці Кастуся Каліноўскага, бо ўдзельнікі паўтарылі той шлях, якім ішоў і наш Кастусь ахвяроўваць сваё маладое жыццё, каб над намі больш "маскаля не было".

Урачыстасці распачаліся з Імшы ў падамініканскім касцёле, якую адправіў кс. Даніла Сваяк. Менавіта ў гэтым касцёле паўстанцы прысягалі на вернасць Богу і народу і з яго сценаў выходзілі, каб бараніць Бацькаўшчыну. У мурах гэтага касцёла апошнія дні зямнога пілігрымавання правёў і Герой Кастусь Каліноўскі.

Пра важнасць і сімвалічнасць гэтага дня і таго, што служба адбываецца ў гэтым месцы гаварыў і кс. Даніла. Ён адзначыў, што нічога бясследна не знікае. Сто гадоў таму тут маліліся па-беларуску беларускія ксяндзы Адам Станкевіч, Язэп Германавіч, Казімір Стэповіч. Тут 150 гадоў таму маліўся і Кастусь Каліноўскі. І сёння тут молімся мы.

Пасля паніхіду за супакой душы Кастуся адслужыў грэка-каталіцкі святар Яўген Усошын.

Усклаўшы кветкі да шыльды Кастуся Каліноўскага, якая знаходзіцца на мурах гэтага касцёла, удзельнікі паўтарылі той шлях, якім ішоў Кастусь у апошні дзень свайго жыцця. Шэсце, у якім узялі ўдзел некалькі сотняў беларусаў, расцягнулася доўгім ланцугом па вуліцах Вільні. Шматлікіх жыхароў і гасцей літоўскай сталіцы ўразіла і зацікавіла калона з пераважна бел-чырвона-белымі сцягамі.

На тым месцы, дзе Кастусь адышоў у нябесную Беларусь, нас чакалі вядомыя літоўскія палітыкі: Вітаўтас Ландсбергіс, Эмануэліс Зінгерыс. Яны не толькі праявілі салідарнасць з нашым народам, але засведчылі, што літоўцы і беларусы заўжды былі разам і няма патрэбы, каб гэтыя даўнія суседскія і сяброўскія адносіны перарваліся.

Каля крыжа таксама прамаўлялі вядомыя беларускія дзеячы і палітыкі. Хведар Нюнька ў сваёй прамове адзначыў, што паўстае праблема захавання месца памяці Кастуся Каліноўскага на Лукішскім пляцы, бо будзе праводзіцца рэканструкцыя Лукішак і ні ў адным з падтрыманых праектаў не захаванае гэтае месца. Таму ТБК будзе рабіць усё магчымае, каб гэты сімвал для беларусаў захаваць.

У сваіх прамовах А.Мілінкевіч, У.Някляеў, В.Сіўчык і інш. звярнулі ўвагу на праблему ўсходняга агрэсара, маўляў, нягледзячы на тое, што прайшло 150 гадоў, нічога не мяняецца. І пацверджанне гэтаму – сітуацыя ва Украіне. Імперыя не можа супакоіцца. Даследчык жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага Язэп Янушкевіч прачытаў успаміны аднаго з царскіх пісьменнікаў, дзе ён апісваў апошнія моманты зямнога жыцця Каліноўскага. Далей зазначыў важнасць гэтай даты і таго, што памяць пра героя не забытая.

Мерапрыемствы да 150-й гадавіны завяршылася ў ЕГУ канцэртам. У чарговы раз было засведчана, што мы беларусы, што нашая гістарычная памяць жыве, мы памятаем і ведаем хто мы, адкуль мы, куды ідзем і чаго хочам. І нас ужо не спыніць. Калі 150 гадоў таму яшчэ не было ў нас свядомасці, не было нашае беларускасці, нашае дзяржавы, то цяпер мы гэтае ўсё маем. І колькі б нас агрэсар не спыняў, зрабіць ён гэта не ў стане. І таму найлепшае пацвярджэнне 22 сакавіка 2014 года ў Вільні, калі сотні беларусаў пад бел-чырвона-белымі сцягамі, з беларускай мовай і нацыянальнымі спевамі пракрочылі вуліцамі Вечнага Горада, ушаноўваючы памяць Героя Кастуся Каліноўскага і сведчачы сабе, свету і акупанту, што нас "не спыніць і не стрымаць".

*Паводле д-ра Алеся Адамковіча*

# Год беларускай культуры ва Украінскім Ізяславе

4 сакавіка ў чытальнай зале раённай бібліятэкі Ізяслава распачалося "шэсце" Года беларускай культуры ва Украіне. Першаю вясноваю ластаўкаю года менавіта ў Ізяславе стала выстава сродкаў масавай інфармацыі і літаратуры беларусаў свету. Перад прысутнымі выступіла загадчыца юнацкага аддзела бібліятэкі, у якім і размясцілася экспазіцыя выставы, спадарыня Тацяна Адамаўна Лісавік. Яна падзякавала кіраўніку беларускай суполкі "Зорка Венера" за дапамогу ў арганізацыі менавіта гэтай выставы, а таксама за пастаяннае папаўненне беларускамоўнымі выданнямі (кнігі, часопісы, газеты) аддзела "Літаратура нацыянальных меншыняў раёна" (палякаў, беларусаў, яўрэяў, расійцаў). Тыднёвік "Голас Радзімы" ўжо другі год запар трапляе ў бібліятэку адразу ж, як прыходзіць да кіраўніка суполкі з Мінска! А з гэтага года да яго далучаны і штомесячнік беларусаў ЗША з Нью-Ёрка "Беларус", які рэдагуе спадарыня Ганна Сурмач, з якою аўтар гэтых радкоў знаёмы асабіста па МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", сябрам якой з'яўляецца ад самага пачатку яе ўзнікнення і па сёння...

*(Пра тое, якія выданні цягам 2014 года пабачаць на стэлажах наведнікі юнацкага аддзела Ізяслаўскай раённай бібліятэкі, чытайце ў поўнай версіі артыкула на сайце zbsb.org – заўв. рэд.).*

Спадзяюся, што з вашаю дапамогаю выстава стане яшчэ больш прывабнай і прыцягне да сябе больш наведнікаў. Нягледзячы на цяжкі час у нашай дзяржаве, Год беларускай культуры ва Украіне распачаўся ў правінцыйным Ізяславе, і будуць наперадзе ў яго святкаванні і новыя мерапрыемствы, пра якія я буду абавязкова вас, шаноўныя чытачы, інфармаваць!

**Мой паштовы адрас украінскаю мовай:**

**Петро Капчик, вул.Незалежності, 21/2, 30300 м. Ізяслав-1, Хмельницька область, УКРАЇНА.**

*Пятрусь Капчык,*
*кіраўнік суполкі "Зорка Венера"*

# Беларусы Канады выказалі падтрымку ўкраінскаму народу

16 сакавіка, у дзень правядзення "рэферэндуму" пад дуламі расійскіх аўтаматаў у Крыме, прадстаўнікі шматлікіх дыяспараў Таронта выйшлі на марш падтрымаць незалежнасць і непадзельнасць Украіны. Поруч з украінцамі праз цэнтр горада прайшлі й прадстаўнікі Згуртавання беларусаў Канады з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Марш праходзіў паўз консульствы ЗША, Англіі, Нямеччыны й Расіі. Падчас мітынгу ля ангельскага консульства Старшыня Згуртавання беларусаў Канады Валянціна Шаўчэнка звярнулася да прысутных з прывітальным словам, выказала падтрымку братняму ўкраінскаму народу.

Беларусы Канады не першы раз выходзяць падтрымаць сваіх украінскіх братоў, бел-чырвона-белыя сцягі можна ўбачыць бадай на ўсіх акцыях у падтрымку Украіны цягам апошніх месяцаў.

*Прэсавая служба ЗБК*

# У ІРКУЦКУ ПРАЙШОЎ ВЕЧАР ПАМЯЦІ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

7 сакавіка 2014 года мы планавалі сабрацца на другую сустрэчу ў рамках новага праекта "На гарбатку ў пятніцу" па вывучэнні ў інтэрактыўнай форме беларускай мовы (ініцыятар Воля Галанава).

Аднак напярэдадні нашай сустрэчы з Беларусі прыйшла сумная вестка – 2 сакавіка 2014 г. памёр Рыгор Барадулін...

Фармат урока адразу ж змяніўся. Мы вырашылі правесці вечар памяці, прысвечаны Народнаму паэту.

І вось увечары 7 сакавіка мы сабраліся ў музеі-майстэрні "Беларуская хата" на вуліцы Польскіх паўстанцаў, 18б, каб аддаць даніну павагі класіку беларускай літаратуры – Рыгору Барадуліну.

Спачатку, ва ўступным слове, я распавёў пра трагічную вестку, аб сваіх асабістых успамінах пра паэта, бо я меў гонар пазнаёміцца з ім і некалькі разоў сустракаўся. Я памятаю, як спадар Рыгор цікава назваў мяне пры сустрэчы: "А, ты таксама полацкі малец..." Мы з ім аказаліся непасрэднымі землякамі, з суседніх раёнаў: ён з Ушацкага, а я з Полацкага. Да гэтага я неяк не звяртаў увагі, што, сапраўды, у нас на Полаччыне хлопцаў называлі не "хлопцы", як па ўсёй Беларусі, а "мальцы". Яго зборнік твораў "Ксты" таксама асабліва дарагі мне, бо вёска Ксты знаходзіцца пад Полацкам якраз па дарозе да маёй вёскі на адлегласці 18 км.

Затым слова ўзяла Воля Галанава, якая пазнаёміла ўсіх з біяграфіяй Рыгора Барадуліна, яго творчым шляхам.

А затым мы перайшлі непасрэдна да ўрока. І падчас урокаў у нас гучаў толькі Р.Барадулін.

Мы перакладалі яго вершы, пазнаёміліся з асноўнымі правіламі вымаўлення беларускіх гукаў, адгадвалі барадулінскія вершыкі-загадкі, слухалі касету з жывым голасам паэта.

Скончыўся наш урок супольным выкананнем песні на верш Рыгора Барадуліна "Трэба дома бываць часцей". Выканаць гэтую песню нам удалося з першага разу. Атрымалася дружна і прыгожа.

Кожны ўдзельнік нашага вечару дакрануўся да паэзіі Рыгора Барадуліна. Калі хто яго і не ведаў, то цяпер ён глыбока ўвайшоў у свядомасць кожнага з нас.

І мы будзем заўсёды памятаць нашага суродзіча, Народнага паэта Беларусі – Рыгора Барадуліна.

*Паводле Алега Рудакова*

# НАВІНЫ КАМПАНІІ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

## 12 МЕСЯЦАЎ НА АДНОЙ ПАШТОЎЦЫ

Як не заблытацца ў беларускіх назвах месяцаў? Не назваць кастрычнік красавіком, а травень – ліпенем? З гэтай праблемай сутыкаюцца многія – бацькі і дзеткі, школьнікі і студэнты, кандуктаркі і кантралёры. Кампанія "Будзьма беларусамі!" прадстаўляе наглядны і зручны дапаможнік – новую паштоўку з серыі "Не маўчы па-беларуску!".

Шукайце паштоўкі серыі на стэндах FlyCards! Не маўчыце па-беларуску!

"Не маўчы па-беларуску!" – серыя паштовак ад кампаніі "Будзьма!" і маладых таленавітых мастачак Дар'і Мандзік і Яны Войцік – бясспрэчна дапаможа ў штодзённай камунікацыі ўсім, хто толькі пачынае размаўляць па-беларуску ці толькі на ёй і гаворыць, хто пачынае цікавіцца роднай мовай ці ўсё пра яе ведае і выкарыстоўвае штодня. Не маўчым па-беларуску разам!




*budzma.by*

БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!
НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

# АБВЕШЧАНЫ ЗБОР СРОДКАЎ НА ЗАХАВАННЕ МАГІЛЫ РАВЕНСКАГА

Мікола Равенскі – беларускі кампазітар, аўтар музыкі да гімну "Магутны Божа". Ён спачыў і пахаваны ў бельгійскім горадзе Лёвэн.



Падчас наведання ягонай магілы ў Дзень Волі 25 сакавіка грамада беларусаў Бельгіі звярнула ўвагу на шыльду, што з'явілася на суседняй магіле. У ёй змяшчалася інфармацыя аб тым, што для захавання магільніка родныя ці блізкія павінны аплаціць чарговы ўнёсак. Паводле мясцовага заканадаўства, магілы, за якія не ўнесеная плата за чарговы тэрмін, падлягаюць выдаленню як незапатрабаваныя, а парэшткі крэміруюцца.

Мікола Равенскі спачыў у 1953 годзе. Аплату своечасова ўносілі беларусы пасляваеннае эміграцыі. Апошні раз за месца на могілках унесеная плата 19 чэрвеня 1990 года тэрмінам на 25 гадоў. Гэта значыць, што калі да 19 чэрвеня 2015 года не будзе ўнесеная патрэбная сума – магіла Міколы Равенскага можа знікнуць, што будзе вялікай стратай для беларушчыны. На сённяшні дзень кошт на 25 гадоў складае 930 еўра.

30 сакавіка 2014 года ў беларускай грэка-каталіцкай царкве горада Антверпен быў аб'яўлены збор сродкаў. Кожны патрыёт Беларусі мае магчымасць унесці сваю лепту ў захаванне нашай спадчыны. Адказным быў прызначаны радны Беларускай Народнай Рэспублікі Зміцер Піменаў.

**Кантакт**: +32-485-32-61-70, mironkryvich@pandora.be.

*"Радыё Свабода"*

# БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА АДСВЯТКАВАЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ

25 сакавіка беларусы ва ўсім свеце святкуюць Дзень Волі. Прапануем вам невялікі агляд таго, як беларусы ў некаторых краінах замежжа адзначылі 96-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР.

**Варшава**

У нядзелю 23 сакавіка каля амбасады Расійскай Федэрацыі ў Варшаве адбылася супольная беларуска-польска-ўкраінская мітынг-акцыя.

Асноўнымі на мітынгу прагучалі лозунгі: "Не акупацыі Крыму!", "Не паўзучай акупацыі Беларусі!".

Як паведаміў адзін з беларускіх удзельнікаў акцыі, 23 сакавіка – адмысловы дзень, бо набліжаюцца ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, якія сталіся сімвалам барацьбы за волю і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. Таму менавіта ў гэты складаны час, калі расійскія войскі без згоды народу Беларусі знаходзяцца на тэрыторыі нашай Радзімы, мы мусім выказаць пратэст каля амбасады Расійскай Федэрацыі, а таксама падтрымаць братні ўкраінскі народ.

На мітынгу выступілі вядомыя беларускія, польскія ды ўкраінскія грамадска-палітычныя дзеячы: Зміцер Бародка (рух "Разам для Беларусі"), Ігар Коктыш (стваральнік InterPolit.org), Аляксей Дзікавіцкі (сябра рады БНР), Вячаслаў Сіўчык (рух "Разам"), Малгажата Гасеўска (дэпутат сейму РП), Марцін Свянціцкі (дэпутат сейму РП) ды інш.

Акцыя ў Варшаве была арганізаваная кампаніяй "Разам для Беларусі" пры медыйнай падтрымцы грамадска-палітычнай сеткі InterPolit.org

*Паводле belhouse.org*

**Талін**

25 сакавіка "Пралеска" адзначыла Дзень Волі. Апоўдні беларусы Таліна сабраліся каля мемарыяльнай дошкі на вуліцы Вене, 19, усталяванай у гонар ваенна-дыпламатычнай місіі БНР, якая знаходзілася тут у 1920-ых гадах. Удзельнікі ўсклалі кветкі ў гонар 96-й гадавіны абвяшчэння БНР, разгарнулі бел-чырвона-белыя сцягі і зладзілі невялікае шэсце па вуліцах старога Таліна.

*praleska.org*

**Беласток**

Беларусы Падляшша адсвяткавалі 96-я ўгодкі ўзнікнення БНР. Галоўнае мерапрыемства Дня Волі прайшло ў кафэ "Zmiana Klimatu" ў Беластоку. Бел-чырвона-белыя кветкі трапілі сёлета да Ганны Кандрацюк-Свярубскай за кніжку "Беларусь. Любоў і маразм" і "Зорку", якой сёлета спаўняецца 20 гадоў.

Мерапрыемства завершылася канцэртам барда Змітра Вайцюшкевіча. Апрача Ганны Кандрацюк-Свярубскай, узнагароджаныя бел-чырвона-белымі букетамі былі графік Міраслаў Здрайкоўскі, апекуны і акцёры спектакля "Ой, даўно, даўно: Беларускія гісторыі з Падляшша".

**Шчэцін**

Беларуская і ўкраінская моладзь супольна адзначыла свята беларускай незалежнасці. У сяброўскай атмасферы студэнты зладзілі сустрэчу ў стылі дня народзінаў. Першую частку сустрэчы заняў экскурс у гісторыю БНР.

Другой часткай быў пачастунак, калі студэнты мелі магчымасць адпачыць за прыемнай размовай і гарачым грылем.

На сустрэчы прысутнічаў генеральны консул Украіны ў Шчэціне, Генрык Калодзей.

Сустрэча была арганізавана пры падтрымцы Звязу для дэмакратыі ў Беларусі.

**Гданьск**

Беларускае культурнае таварыства "Хатка" ў Гданьску адсвяткавала Дзень Волі. 25 сакавіка сябры таварыства наведалі гарнізонныя могілкі, дзе пахаваны дзяяч Беларускай Народнай Рэспублікі, камісар акругі Крынкі-Луна Лукаш Дзекуць-Малей, яго жонка Серафіма, а таксама беларускім мастак Козьма Чурыла.

29 сакавіка ў Сопаце адбылася прэзентацыя кнігі "У беларускасці наш паратунак", прысвечанай Міколу Гайдуку.

Доктар Лена Глагоўская адзначае, што свята 25-га Сакавіка беларусы Гданьска адзначаюць з 1990 году, таму гэта ўжо стала добрай і сяброўскай традыцыяй. Важнай у гэты дзень даследніца лічыць памяць пра беларускіх дзеячоў.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

**Брусель**

25 сакавіка 2014 года ў Брусэлі адбыўся пікет ў гонар Дня Волі. Пікет арганізаваны Офісам беларускай палітычнай эміграцыі (Антверпен). Удзельнікі пікету трымалі плакаты на ангельскай мове: "Беларусь – турма Расіі", "Лукашэнка – турэмны наглядчык Пуціна", "Расія, рукі прэч ад Украіны і Беларусі" і інш. Дзень быў сонечны.

Публіка актыўна рэагавала. Да ўдзельнікаў падыходзілі, бралі ўлёткі і пыталіся аб сутнасці сітуацыі ў Беларусі. Таксама былі заўважаныя рускамоўныя "турысты" (некаторыя проста "назіралі", іншыя – апраўдвалі цякучую агрэсію Расіі супраць Украіны); былі тут і "цітушкі", якія агрэсіўна абвяргалі сэнс плакатаў пікету і называлі еўраадміністрацыю "дурнямі".

Пасля пікету ўдзельнікі наведалі



магілку кампазітара Міхаіла Равенскага ў горадзе Лёвэн (Фландрыя, Бельгія), аўтара музыкі беларускага нацыянальнага гімна "Магутны Божа". Скончыўся святочны дзень у кафэ "Спорт-Лёвэн".

*Паводле Алеся Шпакоўскага*

**Вільня**

25 сакавіка ў памяшканні Таварыства беларускай культуры ў Літве прайшла імпрэза, прысвечаная самаму вялікаму нацыянальнаму святу – абвяшчэнню першай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы. Вільня заўжды была важным цэнтрам не толькі ў жыцці беларускай нацыі, але і ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці. Без удзелу беларусаў-віленчукоў магло б не быць і 25 сакавіка 1918 года. І менавіта тут, у Вільні, гэтае свята ўшаноўвалася і тады, калі ў Беларусі яно было забаронена і большасць беларусаў пра яго нічога не ведала. І сёння тут, у Вільні, беларусы зноў вольна крочаць з бел-чырвона-белымі сцягамі, а значыць нясуць Беларусь наступным пакаленням.

Віленская традыцыя адзначэння 25 сакавіка была неперарыўнай. Праз усё XX стагоддзе беларусы-віленчукі збіраліся і адзначалі сваё найвялікшае свята. Былі часы, калі гэта рабілі патаемна, але рабілі. І сёння ў чарговы раз сабраліся ў Вечным Горадзе, каб не перарваць традыцыю і перадаць Беларусь наступным пакаленням.

*Паводле Алеся Адамковіча*

**Саўт-Рывер**

У гарадку Саўт-Рывер у штаце Нью-Джэрсі (ЗША), дзе ад канца XIX ст. жыве вялікая грамада беларусаў.

Беларускі сцяг быў урачыста ўзняты ў прысутнасці прадстаўнікоў гарадской улады і беларуска-амерыканскай грамады ў суботу, 29 сакавіка, на галоўнай вуліцы горада каля будынку бібліятэкі-музея (традыцыя ўздымання беларускага сцяга існуе тут ад 1960-х гадоў).

Там жа была прачытаная пракламацыя мэрам горада Дня Беларускай Незалежнасці.

➲

# БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА АДСВЯТКАВАЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ

У нядзелю 30 сакавіка ў царкве святой Еўфрасінні Полацкай была прачытаная з нагоды ўгодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР малітва за дабрабыт беларускага народу.

*Паводле Я.З., "Наша Ніва"*

**Таронта**

У нядзелю 30 сакавіка ў залі Беларускага грамадска-рэлігійнага цэнтра Таронта адбылося святкаванне Дня Волі. Прысутныя былі прыемна ўражаныя новым фарматам імпрэзы: замест традыцыйнага даклада ўдзельнікам была прапанаваная віктарына па гісторыі ўтварэння БНР. Віктарыну падрыхтавалі і цудоўна правялі Алена Лявончанка і Ірына Тоўсцік.

Святкаванне праходзіла пад лозунгам салідарнасці з народам Украіны. Спеўны гурт "Яваровы людзі" падахвоціў усіх выканаць разам украінскую песню "Заспіваймо пісні, товариші мої". Прысутныя змаглі пабачыць кадры з мітынгу, арганізаванага ўкраінскай дыяспарай Таронта, на якім выступалі і сябры ЗБК.

*Прэсавая служба ЗБК*

**Прага**

У нядзелю 23-га сакавіка, нягледзячы на дождж і холад, пражскія беларусы аддалі даніну традыцыі і сабраліся разам, каб адсвяткаваць Дзень Волі – 96-ю гадавіну ўтварэння першай нацыянальнай дзяржавы – Беларускай Народнай Рэспублікі.

Святкаванне пачалося аб 11-й гадзіне з багаслужбы айца Андруся Абламейкі ў царкве святых Кузьмы і Дзям'яна. Пасля беларусы сабраліся на Альшанскіх могілках і ўшанавалі памяць прэзідэнтаў Рады БНР Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі і спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Айцец Андрусь правёў традыцыйную паніхіду, беларусы разам заспявалі малітву "Вечная памяць" і гімн "Магутны Божа".

Тым часам у беларускай клубоўні для ўсіх свядомых суайчыннікаў і іх сяброў рыхтавалася галоўная частка культурнай праграмы. Святочная імпрэза распачалася пачастункам і шчырай, светлай прамовай айца Андруся, які звярнуў увагу на скрадзеную ікону Бялыніцкай Божай Маці, нагадаўшы беларусам пра тое, што Святы Дух усё роўна застаецца з намі, у гэтым памяшканні, ды ў нас саміх. Таму нам варта часцей збірацца разам ў гэтым асвечаным памяшканні, захоўваючы тым самым ягоную святасць!

Сяргей Навумчык выступіў са сваёй прамовай і зачытаў зварот старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы да беларусаў усяго свету з нагоды Дня Волі.

Чэшская сяброўка беларускай дыяспары Святлана Вранава прэзентавала беларусам іх гімн "Магутны Божа" ва ўласным перакладзе на чэшскую мову, які яна зрабіла, прыкладаючы максімальныя намаганні да таго, каб па-чэшску ён гучаў з тым жа імпэтам і перадаваў той жа настрой. Яна заспявала пад гітару абодва варыянты – і арыгінальны беларускі, і чэшскі. Акрамя таго Святлана распавяла пра беларускія кнігі, якія пераклала на чэшскую мову: "Залаты век Беларусі" Станіслава Акінчыца і "Люблю Беларусь" Паўла Севярынца. Святлана займалася гэтымі перакладамі па сваёй ініцыятыве, бо, паводле яе словаў, пра Беларусь амаль нічога, ці прынамсі вельмі мала напісана па-чэшску. Пераклад кнігі "Люблю Беларусь" пакуль што чакае свайго выдання.

Працягваючы тэму гімнаў, мастацтвазнаўца з Украіны Аксана Пэлэньска распавяла беларусам гісторыю свайго роднага гімну. Яго аўтарам быў украінскі этнограф, фальклярыст і паэт Павал Чубінскі, які напісаў увосень 1862 года патрыятычны верш "Ще не вмерла Україна", тэкст якога фактычна стаў нацыянальным гімнам яшчэ да таго, як Украіна стала незалежнай дзяржавай. За што аўтар і быў высланы пад паліцэйскі нагляд у Архангельскую губерню. Пазней каталіцкі святар Міхайла Вярбіцкі склаў для верша музыку.

Завяршальнай часткай праграмы прагучаў канцэрт Міхася Бараноўскага, лідара гурта "Нельга забыць". Міхась спяваў песні і чытаў вершы – уласныя і Уладзіміра Караткевіча. Некаторыя з выкананых песень былі таксама пакладзеныя на вершы Караткевіча, напрыклад, "Казка", "Роздум". Алесь Ясінскі экспромтам акампанаваў Міхасю на акардэоне.

Падчас канцэрту клубоўню наведала каля 50 чалавек. Арганізатары мерапрыемства – суполкі "Пагоня" і "Скарына". Асобная падзяка сп. Алене Ціхановіч!

*Паводле pahonia.cz*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў красавіку: **Валянціну Аксак, Алега Хаменку** (Беларусь), **Івонку Сурвілла** (Канада), **Хведара Нюньку** (Літва), **Наталлю Герасімюк** (Польшча), **Алега Рудакова і Ніну Кабанаву** (Расія).

Зычым вам шчасця, добрага настрою, бадзёрасці, а таксама прыемных людзей і верных сяброў побач!

У красавіку некаторыя сябры Вялікай Рады адзначаюць свае юбілеі: 8 красавіка **Алене Глагоўскай** (Польшча) спаўняецца 55 гадоў, 21 красавіка **Сяргей Бандарэнка** святкуе 50-годдзе, а 23 красавіка 70-годдзе сустрэне **Пятрусь Капчык** (Украіна).

Дарагія юбіляры! Мы ад усёй душы віншуем вас з гэтымі цудоўнымі датамі! Дзякуй вам за ваш штодзённы клопат пра Беларусь, дзякуй што помніце і ганарыцеся сваімі беларускімі каранямі і не даяце забыцца на іх іншым беларусам! Ад шчырага сэрца зычым вам многіх шчаслівых і сонечных дзён у жыцці, прыемных падзеяў, пазітыву, выдатнага здароўя і даўгалецця!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



**Калектыўнае віншаванне ад сяброў кіраўніка суполкі беларускай культуры "Зорка Венера" ў Ізяславе Петруся Капчыка**

З Днем народження вітаємо сердечно нашого ювіляра Петруся Капчика!

*Бажаємо сонця, весняного цвіту,*
*Хай ранки твої будуть сонцем зігріті,*
*Нехай тобі, друже, у будні і свята*
*Лиш радісні вісті приходять до хати.*

*Хай щастя рікою в житті твоїм ллється*
*Хай хліб і до хліба у домі ведеться,*
*Хай серце не знає печалі і болю,*
*Бажаєм довіку щасливої долі!*



## ПАМЁР БЕЛАРУСКІ ДЗЕЯЧ З МАСКВЫ АЛЕСЬ КАЛЯДА



8 сакавіка 2014 года на 58-м годзе жыцця не стала Алеся Каляды, шматгадовага актыўнага ўдзельніка беларускага жыцця ў Маскве, сябра рады Маскоўскага Таварыства Беларускай Культуры імя Ф. Скарыны.

Алесь Каляда больш за трыццаць гадоў пражыў у Маскве, быў адным з першых членаў ТБК імя Скарыны ад пачатку 1990-х. На працягу ўсіх гадоў ён быў нязменным суарганізатарам і ўдзельнікам усіх галоўных мерапрыемстваў незалежніцкай беларускай дыяспары.

Жонка Алеся Каляды Ганна Рыжкоўская – настаўніца беларускай мовы ў беларускай школцы Масквы ў пачатку 1990-х.

Для маскоўскага беларускага альманаха "Скарыніч" Алесь Каляда напісаў калісь:

"Трэба сказаць, што з'ехаўшы з Радзімы, я ніколі не страчваў душэўнай сувязі з ёй. Заўсёды цягнула да мясцінаў дзяцінства, а з гадамі гэтая цяга штораз неадольнейшая. З архіўных крыніц уведаў, што ў 1915 годзе ўсе царкоўныя каштоўнасці разам са званамі Менскай губерні былі вывезены ў Расію, пераважна ў Маскву. Ніхто іх назад не вяртаў. Вось цяпер, снуючы маскоўскімі вуліцамі, завулкамі, слухаючы меладыйныя перазвоны царкоўных, манастырскіх купалаў, неяк шчыміць душа: чуцён мне кліч прасветнае Радзімы…"

Светлая памяць і спачуванні родным і сваякам.

*АЧ, "Наша Ніва"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае глыбокія спачуванні ўсім родным, сябрам і паплечнікам спадара Алеся. Светлая яму памяць!***

## ДА САРАКАВІН ПА РЫГОРУ БАРАДУЛІНУ ВЫЙДЗЕ КНІГА З ЯГО АПОШНІМІ ВЕРШАМІ

Выданне "У неба пехатою" аператыўна склаў і падрыхтаваў Сяргей Шапран, літаратуразнаўца і сябар Рыгора Барадуліна. У кнігу ўвайшлі вершы Барадуліна за апошнія тры гады, а таксама вершы, напісаныя за некалькі дзён да сыходу.

Назва кнігі – гэта радок аднаго з апошніх вершаў. Выданне на некалькі соцень старонак акрамя саміх твораў будзе ўключаць унікальныя фотаздымкі і рукапісы народнага паэта. Выхад кнігі ў свет чакаецца да 10 красавіка – саракавіны па Рыгору Барадуліну.

"У неба пехатою" падрыхтуе выдавецтва "Медыял" пры падтрымцы бізнэсоўца і мецэната Паўла Бераговіча. Ужо адкрытая падпіска на новую кнігу праз сайт блогера Глеба Лабадзенкі.

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін памёр 2 сакавіка 2014 года. Яму было 79 гадоў.

*tut.by*




## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА КРАСАВІК 2014 ГОДА

1 красавіка – 25 гадоў таму, у 1989-м, у Гданьску (Польшча) заснаваны гурток Беларускага Аб'яднання Студэнтаў.

6 красавіка – 15 гадоў таму ў Мінску пры загадкавых абставінах памёр Генадзь Карпенка (1949–1999), грамадска-палітычны дзеяч, вучоны.

10 красавіка – Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў.

12 красавіка – 45 гадоў таму, у 1969-м, у г. Пэнлей (Вялікабрытанія) памёр Сяргей Малафееў, медык, адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні, вязень савецкіх канцлагераў.

13 красавіка – 90 гадоў таму, у 1924-м, У Мінску выйшаў першы нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Радавая рунь" (выдаваўся да 19 чэрвеня 1924 г.).

15 красавіка – 95 гадоў таму, у 1919-м, у Мінску пры педагагічным інстытуце ўтворана Мінскае навуковае педагагічнае таварыства (дзейнічала да 1923 г.).

18 красавіка – Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцін.

18 красавіка – 200 гадоў таму ў Лагойску нарадзіўся Яўстах Тышкевіч (1814–1873), гісторык, краязнавец, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

18 красавіка – 105 гадоў таму ў Дзвінску (цяпер г. Даўгаўпілс, Латвія) нарадзіўся Лазар Ран (1909–1988), мастак.

22 красавіка – 60 гадоў таму ў Рызе памёр Сяргей Сахараў (1880–1954), культурны дзеяч, фалькларыст, этнограф, педагог.

22 красавіка – 20 гадоў таму, у 1994-м, у Мінску пачалася першая сустрэча беларускай моладзі свету (доўжылася два дні, 200 дэлегатаў з краін былога СССР і Польшчы).

24 красавіка – 125 гадоў таму ў Стоўбцах нарадзіўся Юры Сабалеўскі (1889–1957), палітычны дзеяч, пасол польскага сейма, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

25 красавіка – 10 гадоў таму, у 2004-м, адбыўся Другі Усебеларускі сход інтэлігенцыі, які выказаўся за актыўны ўдзел у парламенцкіх выбарах.

26 красавіка – Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986 г.).

28 красавіка – 95 гадоў таму, у 1919-м, у Вільні пачала выдавацца газета "Беларуская думка" (выходзіла да 27 ліпеня 1919 г.). Рэдактары І. Вайцяховіч, У. Знамяроўскі, Э. Падгайскі.

30 красавіка – 20 гадоў таму, у 1994-м, набыла сілу Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая 15 сакавіка 1994 г.

**Беларусы ў свеце**
№3(143), сакавік 2014

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27